**Гродна**
№5 (511),
10 сакавіка 2019

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ




# У ПАПЯЛЬЦОВУЮ СЕРАДУ

## мы ўвайшлі ў выключны час 40-дзённага пакаяння.

**Гэты літургічны перыяд запрашае нас нанова перажыць любоў Пана ды перамяніць жыццё, спосаб мыслення, ацэнкі каштоўнасцей і паводзін. Варта адказна ўзяцца за працу над сабой, шчыра адкрыцца на ўкрыжаванага Хрыста і змагацца з грахом, які прыводзіць да няволі і смерці. Мэта заўсёды тая самая: аднаўленне нашага запавету, нашай камуніі з Богам. У гэты святы час давайце шукаць знакі еднасці і супольнасці з Езусам Хрыстом, з нашымі братамі і сёстрамі. Да таго ж, атрымліваем чарговую магчымасць добрай падрыхтоўкі да Велікодных свят.**

● працяг на с. 4–5

**“Давайце не дапусцім, каб гэты бласлаўлёны час мінуў дарма!”. Папа Францішак**

# РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

**І НЯДЗЕЛЯ ВЯЛІКАГА ПОСТУ**
**Лк 4, 1–13**

Езус, напоўнены Святым Духам, вярнуўся з-над Іардана, і Дух вывеў Яго ў пустыню, дзе на працягу сарака дзён д'ябал выпрабоўваў Яго. І нічога не еў у тыя дні, а калі яны скончыліся, згаладаўся. І сказаў Яму д'ябал: "Калі Ты Божы Сын, скажы гэтаму каменю, каб ён стаў хлебам". І адказаў яму Езус: "Напісана: «Не хлебам адным будзе жыць чалавек»". Тады д'ябал павёў Яго і паказаў у імгненне ўсе валадарствы свету. І сказаў Яму: "Я дам Табе ўсю гэтую ўладу і славу іх, бо яна мне перададзена, і каму хачу, даю яе. Калі Ты паклонішся мне, усё будзе Тваё". У адказ Езус сказаў яму: "Напісана: «Пану Богу твайму будзеш пакланяцца і Яму аднаму будзеш служыць»". Тады завёў Яго ў Іерусалім і паставіў на версе святыні, і сказаў Яму: "Калі Ты Божы Сын, кінься адгэтуль уніз. Бо напісана: «Анёлам сваім загадае наконт Цябе, каб ахоўвалі Цябе» і «Яны на руках панясуць Цябе, каб Ты часам не спатыкнуўся аб камень сваёй нагою»". Езус сказаў яму ў адказ: "Сказана: «Не будзеш выпрабоўваць Пана Бога твайго»". І скончыўшы ўсе выпрабаванні, д'ябал адступіў ад Яго да пары.

## БОГ – НАШ ШЧЫТ

Прыклад духоўнай барацьбы Хрыста, які правёў пераможную бітву з д'яблам, што спакушаў Яго, вучыць, як эфектыўна супрацііўляцца злу і пераадольваць спакусы. Яны часта атакуюць чалавека, каб зрабіць у людской душы адтуліну, дзякуючы якой д'ябал трымае на прывязі.

У духоўнай барацьбе не можам спадзявацца толькі на сябе, на ўласныя сілы, але павінны дзейнічаць разам: супрацоўнічаць з Езусам, Найсвяцейшай Паннай Марыяй, са святымі Заступнікамі, Анёлам-ахоўнікам. Тады, чэрпаючы ласку ад Усемагутнага, мы не толькі здолеем перамагчы, але і станем мацнейшымі, падобна да воіна, які, перамагаючы свае слабасці, дужэе.

Цудоўнай нагодай для таго, каб адвярнуцца ад граху і ступіць на шлях дабра ды любові да Бога з'яўляецца Вялікі пост. Давайце зробім нашы адносіны з Панам сваёй духоўнай зброяй, шчытом і мячом у барацьбе супраць зла.

**Ці ёсць хтосьці або штосьці акрамя Бога, перад кім або чым схіляюся ў паклоне?**

**Ці выпадкова не змагаюся ў адзіночку?**

**ІІ НЯДЗЕЛЯ ВЯЛІКАГА ПОСТУ**
**Лк 9, 28b–36**

Езус узяў з сабою Пятра, Яна і Якуба і ўзышоў на гару памаліцца. І калі Ён маліўся, выгляд твару Ягонага пераменіўся, і вопратка Ягоная стала бліскуча-белай. І вось два мужы размаўлялі з Ім, а былі гэта Майсей і Ілля. Яны з'явіліся ў славе і казалі пра Ягоны адыход, які Ён павінен здзейсніць у Іерусаліме. Пётр і тыя, хто быў разам з ім, былі зmораныя сном. Калі ж абудзіліся, убачылі славу Яго і двух мужоў, якія стаялі разам з Ім. А калі яны адыходзілі адтуль, Пётр сказаў Езусу: "Настаўнік, добра нам тут быць. Паставім тры шатры: адзін для Цябе, адзін для Майсея і адзін для Іллі". Не ведаў ён, што казаў. Калі гаварыў гэта, з'явілася воблака і агарнула іх. І спалохаліся яны, калі ўвайшлі ў воблака. А з воблака пачуўся голас, які казаў: "Гэта Сын Мой выбраны, Яго слухайце". І калі гучаў гэты голас, Езус апынуўся адзін. І маўчалі яны, і ў тыя дні нікому нічога не казалі пра тое, што бачылі.

## АТРЫМАЦЬ УЗНАГАРОДУ

Чалавек быў створаны не для гэтага свету. У пакліканні да вечнага жыцця пераконвае надзвычай моцная туга па бессмяротнасці, абсалютнай ісціне, дасканаласці, прыгажосці, любові, якія жывуць глыбока ў кожнай чалавечай душы, а таксама ўтоены ў ёй голад чагосьці большага, чым тое, што можа прапанаваць гэты свет.

Радзімай чалавека з'яўляецца Неба, да якога можна дабрацца толькі праз Галгофу і крыж, г. зн. праз шматлікія зямныя праблемы і цяжкасці, складаную штодзённасць. Аднак калісьці ўсё гэта пераменіцца і стане падставай для гонару і славы. Падобна як трое выбраных вучняў з прыведзенага фрагмента Евангелля, якім Хрытос прыадкрыў заслону таямніцы хвалебнага і шчаслівага жыцця ў Небе, мы станем удзельнікамі дару, якога "вока не бачыла, і вуха не чула, і не спазнала сэрца чалавека", паколькі "вялікія рэчы Бог падрыхтаваў тым, хто любіць Яго" (параўн. 1 Кар 2, 9).

**Ці памятаю, да чаго я быў пакліканы?**

**Што раблю, каб стаць удзельнікам Божай узнагароды?**

*Кс. Юрый Марціновіч*

**Слова рэдактара**



*Кс. Юрый Марціновіч*

# Паставіць на Бога

*Нягледзячы на тое, што попел, якім у Папяльцовую сераду былі пасыпаны нашы галовы, здзьмуў вецер ці змыла вада, мы надалей разважаем у сваіх сэрцах пачутыя ў гэты дзень словы: "Ты – прах, і ў прах вернешся" і "Наварочвайцеся і верце ў Евангелле".*

Пан заклікае да навяртання асабліва цяпер, у святы час Вялікага посту. Яно з'яўляецца абсалютнай неабходнасцю! Усемагутны прагне нам усвядоміць, што існуе адрознае ад звычайнага жыццё, да якога мы штодзённа імкнёмся.

З аднаго боку, рашэнне аб навяртанні мы прымаем толькі аднойчы, а з другога – шматразова на працягу ўсёй сваёй зямной вандроўкі. Аднойчы – калі пастановім, што хочам жыць у адзінстве з Богам, шматразова – пасля кожнага падзення. Грэх – гэта збочванне з дарогі, якая вядзе ў вечнасць. Аднак Езус заўсёды дае нам чарговы шанс. Колькі іх мы атрымліваем за ўсё жыццё! І мала калі задумваліся, што кожны можа быць апошнім...

Бог аб'явіўся чалавеку як хтосьці самы блізкі, як Айцец і Сябар. Ён прагне засцерагчы сваё любімае дзіця ад чарговай раны; прагне шчырай, адкрытай і поўнай даверу сувязі з чалавекам, каб магчы яго аздараўляць. Аднак еднасць з Усемагутным немагчымая без адмаўлення ад граху.

Ніхто з людзей не нараджаецца вялікім грэшнікам. Становіцца ім, калі дазваляе д'яблу ўварвацца ў сваю душу і запанаваць у ёй. Прыгадаем лёс Адама і Евы: яны былі бязвіннымі, пакуль не паддаліся спакусе. Грэх толькі спачатку салодкі, як плод, сарваны з Дрэва Жыцця. Яго наступствы вельмі горкія, а часам нават атрутныя. Д'ябал, галоўны віноўнік беззаконняў, прагне для людзей толькі знішчэння. Шчасця ж чалавек можа дасягнуць толькі ў гармоніі з Богам.

Калісьці манахіня тлумачыла дзецям: "Чым бліжэй я падыходжу да акна і святла, тым больш плям бачу на сваім хабіце". Так і з нашым навяртаннем і набліжэннем да Пана. Чым бліжэй мы да Яго, тым больш недасканаласцей у сабе заўважаем. Аднак гэта не павінна выклікаць нездаровыя згрызоты сумлення – мусіць узнікаць жаданне непахісна накіроўвацца да святасці з верай у гаючую Божую міласэрнасць.

Вялікі пост – гэта час пакаяння і барацьбы з грахом, час прызнання сваёй недасканаласці і асуджэння зла. Мы павінны знішчыць усіх бажкоў, якіх паставілі на сваім шляху да Бога, памятаючы, што не дастаткова пазбягаць зла, трэба таксама рабіць як мага больш дабра.

**Дарагія Чытачы!**

Няхай у сёлетні пакаянны перыяд нас умацуюць рэкалекцыі, вялікапосныя набажэнствы, пост і міласціна, а таксама добра перажытая споведзь. Мейма адвагу кінуцца ў адкрытыя абдымкі Бога, даручаючы Яму ўсё сваё жыццё.

# ЖЫЦЬ ЕВАНГЕЛЛЕМ
# ПЕРШЫ СІНОД ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



## Камісія па справах катэхезы і каталіцкага выхавання

Выхаванне ніколі не было чымсьці лёгкім, а ў сучаснасці, здаецца, яно становіцца сапраўдным выклікам. Пра гэта добра ведаюць бацькі, настаўнікі, святары і ўсе тыя, на кім спачывае непасрэдная адказнасць за гэты працэс. Не аднойчы сёння можна пачуць пра "вялікі выхаваўчы крызіс", паколькі ўсе намаганні, каб старанна фарміраваць асоб, здольных супрацоўнічаць з іншымі і надаць сэнс свайму існаванню, часта застаюцца дарэмнымі.

Жыццё шчырага вызнаўцы Хрыста ад хвіліны нараджэння ажно да смерці прасякнута збаўчым уздзеяннем сакрамантаў. Касцёл, быццам вопытны педагог, прагне спадарожнічаць верніку ў духоўным развіцці і нястомна прыгадваць яму пра канчатковае прызначэнне. Галоўнай задачай такой фармацыі з'яўляецца фарміраванне ў чалавеку вечных каштоўнасцей і адкрытасці на ўздзеянне Святога Духа. Адсюль вынікае сталая неабходнасць выхавання і катэхізацыі. Маюцца на ўвазе не толькі веды, паколькі без досведу жывой веры яны могуць аказацца бескарыснымі. Паглыбленне ведаў і веры павінна ажыццяўляцца паралельна і дапаўняць адно аднаго.

Прадмет увагі Камісіі па справах катэхезы і каталіцкага выхавання – фармацыя дзяцей і моладзі, а таксама катэхізацыя ўсіх пакаленняў вернікаў. Асноўным, але не адзіным асяроддзем выхавання маладых людзей з'яўляецца сям'я. У фарміраванні асобы падрастаючага чалавека ўдзельнічаюць таксама школа і парафія. Таму мэтай прац Камісіі з'яўляецца яшчэ і пошук прастор супрацоўніцтва паміж гэтымі асяроддзямі, каб у выніку весці дзяцей і моладзь да блізкіх адносін з Хрыстом.

Камісія прагне шукаць новыя эфектыўныя спосабы адукацыі і падтрымкі катэхетаў, каб даць ім магчымасць быць абвяшчальнікамі Слова ў сваіх асяроддзях. Сінадальную працу яна распачала з падрыхтоўкі ананімнай анкеты, разасланай духоўным асобам Гродзенскай дыяцэзіі, што мае на мэце асвяціць сітуацыю катэхізацыі ў лакальным Касцёле. Пытанні датычаць, між іншым, непасрэдна катэхета, яго адукацыі і сацыяльнага забеспячэння, а таксама катэхізаваных асоб, іх удзелу ў катэхезе, уцягнутасці ў жыццё парафіяльнай супольнасці, супрацоўніцтва з бацькамі.

Вобласць працы Камісіі шырокая і шматступенная. Члены Камісіі – святары, манаскія сёстры ды свецкія катэхеты, якіх яднае супольны клопат аб высокім узроўні катэхезы і добрым выхаванні маладога пакалення ў нашай дыяцэзіі, і якія прагнуць прыкласці ўсе намаганні, каб місійны наказ Хрыста "Ідзіце і навучайце ўсе народы" (Мц 28, 19) надалей рэалізаваўся з вялікім запалам!

*Кс. Юрый Марціновіч*

# Папа Францішак – пакліканы, каб нас весці


13 САКАВІКА – 6-АЯ ГАДАВІНА ПАНТЫФІКАТУ ПАПЫ ФРАНЦІШКА

**Рашучасць у рэфармаванні Касцёла, важныя экуменічныя жэсты і чарговыя навінкі, багаты план абвешчаных і рыхтуемых паездак – вось вобраз пантыфікату Святога Айца Францішка. Чым ён адрозніваецца ад сваіх папярэднікаў? На якія важныя падзеі яго паслугі варта звярнуць увагу?**

### САПРАЎДНЫ РЭКАРДСМЕН

Папа Францішак – першы Святы Айцец у гісторыі, які паходзіць з Паўднёвага паўшар'я, з Амерыкі, а таксама першы з па-за межаў Еўропы за апошнія 1300 гадоў. На пасадзе св. Пятра ён з'яўляецца таксама першым айцом езуітам і першым, хто абраў імя Францішак.

### ЛЮБІЦЬ НЕПАСРЭДНЫ КАНТАКТ З ЛЮДЗЬМІ

У адрозненне ад сваіх папярэднікаў папа Францішак асабіста тэлефануе, куды трэба, не карыстаючыся дапамогай сакратара. З'яўляецца таксама "праблемным" падапечным для сваіх ахоўнікаў. Яго жаданне быць як мага бліжэй да людзей прыводзіць да таго, што Святы Айцец часта выслізгвае з-пад кантролю Ватыканскай гвардыі.

### НЕ КАРЫСТАЕЦЦА ВАТЫКАНСКІМ ПАШПАРТАМ

Папа Францішак з'яўляецца грамадзянінам 3-ох краін: Аргенціны (адкуль паходзіць), Італіі і Ватыкана. З любові да сваёй Бацькаўшчыны ён не прыняў ватыканскі пашпарт і надалей карыстаецца аргенцінскім дакументам.

### ЯГО ЛЮБІМЫ/-АЯ

- Карціна: "Белае распяцце" пэндзля Марка Шагала.
- Кампазітар: Вольфганг Амадэй Моцарт. Францішак кажа пра яго: "Моцарт напаўняе мяне. Св. Імша ў до-міноры «Et Incarnatus Est» унікальная; яна ўзносіць да Бога".
- Святая: Тэрэза з Лізье (вядомая таксама як св. Тэрэза ад Дзіцятка Езус і Найсвяцейшага Аблічча).
- Кніга: "Уладар пярсцёнкаў" Джона Толкіена (на аўтара спасылаўся нават у сваіх казаннях!).
- Фільм: "Дарога" рэжысёра Федэрыка Феліні, 1954 г.

### ПАСТЫР УБОГІХ

Святы Айцец Францішак на ўласным прыкладзе вучыць, чым з'яўляецца адчувальнасць да ўбоства, цярпення і пераследу. Абараняе бежанцаў і ненароджаных дзяцей. Разам з тым ён не паддаецца ні левым, ні правым, застаючыся важнай крыніцай натхнення ў час, калі хрысціянскія ісціны ўсё больш маргіналізуюцца.

### "ЗЯЛЁНЫ", ЯК СВ. ФРАНЦІШАК

Экалагічная рыса і заклік да ахövы прыроды, бясспрэчна, з'яўляецца адной з важнейшых адметнасцей пантыфікату папы Францішка. Шырокая лекцыя аб хрысціянскіх адносінах да прыроды і экасістэмы, змешчаная ў энцыкліцы "Laudato si" 2015 года, паказвае, што абыякавае стаўленне і знішчэнне навакольнага асяроддзя з'яўляецца цяжкім грахом і паставай, якая супярэчыць вучэнням Хрыста.

### АДЧЫНІЎ БРАМЫ МІЛАСЭРНАСЦІ

Адной з найважнейшых душпастырскіх ініцыятыў папы Францішка быў Надзвычайны Святы год міласэрнасці, які адзначаўся ва ўсіх дыяцэзіях свету. Яго дэвізам сталі словы: "Міласэрныя, як Айцец". З нагоды Года міласэрнасці былі адчынены Святыя дзверы – Брамы міласэрнасці. Біскуп Рыма разаслаў па ўсім свеце 1071 святара – місіянераў міласэрнасці, якім даверыў уладу прабачэння грахоў, што належаць да юрысдыкцыі Апостальскай Сталіцы, і даручыў ім заданне абвяшчаць "радасць прабачэння".

### ЗДЗЕЙСНІЎ 27 ЗАМЕЖНЫХ ПАДАРОЖЖАЎ

Многія апостальскія візіты папы Францішка былі арганізаваны на перэферыю свету, у найбяднейшыя краіны. Святы Айцец наведаў таксама 2 найважнейшыя палітычныя ўстановы Еўропы: Еўрапейскі парламент у Брусэлі (Бельгія) і Раду Еўропы ў Страсбургу (Францыя). Ён з'яўляецца першым у гісторыі галавой Каталіцкага Касцёла, які сустрэўся з кіраўніком Рускай Праваслаўнай Царквы патрыярхам Масквы і ўсяе Русі Кірылам.

### УЗНЁС ДА ХВАЛЫ АЛТАРА 2055 АСОБ

Да гэтага часу папа Францішак абвясціў 1176 бласлаўлёных і 879 святых, у ліку якіх яго папярэднікі Ян XXIII, Ян Павел II і Павел VI.

*Падрыхтавала Кінга Красіцкая*


**Кс. абп Габар Пінтэр,**
Апостальскі нунцый у Беларусі

*Папа Францішак вылучаецца сваёй прастатой: у спосабе жыцця, у спосабе самавыражэння – такім ясным і непасрэдным. Я не аднойчы сустракаўся са Святым Айцом пры розных абставінах: у яго доме – Доме св. Марты – вельмі стрыманым і, у той жа час, прыгожым, гарманічным; і ў бібліятэцы Апостальскага палаца на афіцыйных сустрэчах. Магу пацвердзіць, што папа Францішак – вельмі адкрыты, сардэчны чалавек. Ён прымае людзей з усмешкай, цёплымі словамі, выходзіць насустрач да дзвярэй, каб прывітацца. Мае добрае пачуццё гумару і любіць жартаваць. У часе размовы спакойны і лагодны. У яго выключная памяць – помніць усе дэталі. Любіць класічную музыку і часам слухае яе, працуючы.*

*Папа Францішак здольны глыбока разумець, адчуваць іншага чалавека, асабліва бедных, хворых, бяздомных, вязняў. Ён не стамляецца шукаць новыя магчымасці, каб выказаць ім сваю салідарнасць і дапамогу. Вельмі магчыма, што гісторыя запомніць яго як Папу, які, працягваючы лінію сваіх папярэднікаў, з велізарнай сілай аб'явіў Божую міласэрнасць і спагаду да людзей. Ён штодзённа падкрэслівае шчодрасць і мацярынскую любоў Госпада да кожнага чалавека.*

*З нашых сустрэч са Святым Айцом я не раз мог пераканацца, часам са здзіўленнем, наколькі добра ён ведае гісторыю, культуру і сучасную сітуацыю Беларусі. Беларускі народ знаходзіцца ў сэрцы Папы! З першага дня свайго пантыфікату і пры кожнай магчымасці Святы Айцец просіць кардыналаў, біскупаў, кіраўнікоў краін, вернікаў – усіх людзей добрай волі: "Маліцеся за мяне". І прасіў таксама мяне, каб разам з вамі – вернікамі з Беларусі – мы маліліся за яго, за ягонае служэнне.*


**Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч,**
Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі

*Кожны Пантыфік з'яўляецца найперш наступнікам апостала Пятра. Яго асноўнае заданне – умацоўваць людзей у веры. Вядома, што змяняюцца стагоддзі, а з імі – і выклікі, на якія неабходна своечасова адказваць, бо жыццёвы цягнік можа адысці, пакідаючы пасажыраў, што займаюць месцы ў вагонах, без духоўнай дапамогі. Таму кожны Папа імкнецца да таго, каб гэты "цягнік" не застаўся без Касцёла. Гэта нялёгка ў свеце, дзе людзі жывуць так, быццам Бога не існуе.*

*Такім чынам, у Пантыфіку трэба бачыць перадусім Пятра нашага часу, які вядзе Касцёл шляхам яго ачышчэння і вяртання аўтэнтычнасці. Унікальнасць папы Францішка ў тым, што ў галаву вугла свайго служэння ён ставіць цноту міласэрнасці і служэння бліжнім, аб чым забываецца сучасны эгаістычны свет. Такім чынам ён на практыцы ажыццяўляе запаведзь Хрыста, каб любілі Бога і бліжняга, бо любоў крэатыўная і здольная будаваць новы справядлівы свет – цывілізацыю жыцця.*

*Біскуп Рыма вельмі моцна клапоціцца пра маральны стан чалавецтва і заўсёды заахвочвае духавенства і свецкіх таксама памятаць аб ім. Папа Францішак нагадвае, што заданне святара – весці чалавека шляхам збаўлення, заданне ж хрысціяніна – быць сведкам Хрыста і заставацца верным свайму пакліканню. Святы Айцец заклікае таксама не забывацца пра тое, як старэйшае пакаленне захавала веру ў абставінах жорсткага яе пераследу. Таму сёння перад абліччам секулярызму неабходна браць прыклад з гэтых асоб, каб адважна трымацца вызнаваемых каштоўнасцей.*

*Папа Францішак рэагуе на выклікі сучаснасці, імкнучыся дапамагчы людзям захаваць веру і абараніць яе. Яго адметнасць у тым, што не адкладае справы на заўтра, а стараецца вырашыць іх тэрмінова. Прыкладам гэтага з'яўляюцца Сіноды, прысвечаныя сем'ям і моладзі, а таксама сустрэча старшынь біскупскіх канферэнцый свету па вельмі балючай тэме абароны непаўналетніх.*

*Падчас Сінода біскупаў, прысвечанага моладзі, у мяне была магчымасць сустракацца з папам Францішкам амаль кожны дзень. Я жыў у Доме св. Марты, дзе знаходзіцца рэзідэнцыя Пантыфіка, таму такія спатканні адбываліся ў сталовай, у калідоры і па дарозе на сінадальныя пасяджэнні. Нядаўна я зноў убачыўся з Папам падчас сустрэчы старшынь канферэнцый біскупаў са ўсяго свету. Трэба сказаць, што ён добра ведае пра Беларусь, памятае візіт прэзідэнта і яго запрашэнне наведаць нашу краіну. Аднак пакуль што не называе канкрэтнай даты.*

*Святы Айцец вельмі лёгка кантактуе з кардыналам, біскупам, святаром, кансэкраванай асобай і простым вернікам. У перапынках паміж пасяджэннямі Папа ішоў разам з іншымі ўдзельнікамі на каву, размаўляў з імі. Не адмаўляў, калі хтосьці хацеў сфатаграфавацца з ім. У сталовай Дома св. Марты ён сам сабе падаграваў ежу ў мікрахвалёўцы, мыў садавіну і г. д. Я меў цудоўную магчымасць асабіста дасведчыць, што галава Касцёла па прыкладзе Хрыста з'яўляецца ўвасабленнем прастаты і служэння іншым.*

## СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

### Папа Францішак



*Калі Бог з'яўляецца для нас таямніцай, то мы не з'яўляемся нечым таямнічым у Яго вачах. Бог, як тыя маці, якім дастаткова аднаго позірку, каб зразумець усё пра сваіх дзяцей: ці задаволеныя яны, ці засмучаныя, ці шчырыя, ці ўтойваюць нешта. [...] Бог з'яўляецца тым, хто асвячае, хто перамяняе нас сваёй любоўю. Але адначасова і мы праз сваё сведчанне дэманструем святасць Бога ў свеце, робячы прысутным Яго імя. Бог – святы. Але калі мы, калі наша жыццё не з'яўляецца святым, гэта неадпаведнасць! Божая святасць павінна адлюстроўвацца ў нашых учынках, нашым жыцці.*

*Фрагмент прамовы падчас агульнай аўдыенцыі ў Ватыкане, 27.02.2019*

### Кс. бп Аляксандр Кашкевіч



*У перыяд Вялікага посту Святы Дух запрашае нас вырушыць у пустыню, каб разам з Езусам стаць на барацьбу з д'яблам і каб моцай веры перамагчы адвечнага ворага нашага збаўлення. Паклапоцімся, каб Вялікі пост, які распачынаецца, сапраўды быў часам нашага духоўнага выхаду ў пустыню. Свет, у якім мы жывём, напоўнены шумам, мітуснёй, пастаянным патокам інфамацыі, якая пранікае ў наша жыццё праз тэлебачанне, радыё, інтэрнэт, рэкламу. Мы з цяжкасцю паспяваем за тэмпам жыцця, які ўсё паскараецца, наракаем на недахоп часу, на фізічную, псіхічную і духоўную стомленасць. У той жа час, каб спаткаць Бога, пачуць Яго голас, задумацца ў святле Божага слова над уласным жыццём, нам патрэбна цішыня, засяроджанасць, маўчанне.*

*У Папяльцовую сераду мы распачалі наш велікапосны шлях праз пустыню на сустрэчу з Хрыстом Уваскрослым. Ад нас саміх у вялікай меры залежыць, як мы перажывём гэты час ласкі: ці ўзбагацімся духоўна, ці наблізімся да Хрыста і ці штосьці ў нашым жыцці зменіцца да лепшага.*

*Фрагмент пастырскага ліста на Вялікі пост 2019*

### Кс. бп Антоній Дзям'янка



*Душпастыр у касцёле толькі часткова можа фарміраваць мысленне людзей. У нашы дні недастаткова абмежавацца казаннем унутры касцёла. Добрая Навіна павінна абвяшчацца і па-за межамі нашых святынь. Прычым пастаянна і дзейсна. Гэтую задачу бярэ на сябе каталіцкі друк. [...] Паслуга друкаванага Слова ўзносіць яе да паслугі сакраментальнай. А ў тэалагічным перакладзе гэта азначае, што Бог паслугоўваецца матэрыяльнымі элементамі дзеля таго, каб дасягнуць звышпрыродных вынікаў.*

*Фрагмент казання падчас св. Імшы з нагоды святкавання 25-годдзя часопіса "Дыялог", 23.02.2019*




◆ *Папа Францішак прыняў прадстаўнікоў епіскапату Казахстана, а таксама каталіцкіх ардынарыяў Кыргызстана, Таджыкістана, Туркменістана і Узбекістана, якія прыбылі ў Рым з візітам "Ad limina Apostolorum". Пастыры лакальных Касцёлаў выказалі Пантыфіку пажаданне, каб Апостальская Сталіца стварыла Канферэнцыю Біскупаў Казахстана і Цэнтральнай Азіі. На іх думку, такое рашэнне магло б умацаваць падтрымку Касцёла ў 4-ох самых малых краінах рэгіёна, дзе вернікаў вельмі мала, і яны даручаны пастырскай апецы некалькіх місіянераў, святароў і кансэкраваных асоб.*

◆ *Ва Утрэхце (Галандыя) выстаўлены на продаж будынак катэдральнага сабора св. Кацярыны, утрыманне якога стала занадта дарагім для невялікай колькасці вернікаў. Супраць продажу святыні выказалі пратэст каталікі ўсёй дыяцэзіі, а таксама вернікі з іншых гарадоў і нават краін. У інтэрнэце нераўнадушныя ставяць свой подпіс пад адпаведнай петыцыяй. Канчаткова лёс сабора вырашыць Святы Пасад, паколькі гаворка ідзе пра катэдральную парафію, а не толькі пра парафіяльную святыню.*

◆ *Парагвай намераны стварыць новую паломніцкую трасу. Планаваны "Шлях слядамі езуітаў" будзе нагадваць пра вёскі, заснаваныя на пачатку XVII стагоддзя місіянерамі з Таварыства Езуса ў цэнтральнай частцы Паўднёвай Амерыкі, якія павінны былі ахоўваць мясцовых індзейцаў ад гандлю нявольнікамі. Гэтыя вёскі, называемыя рэдукцыямі, размяшчаліся на землях сучасных Парагвая, Аргенціны, Бразіліі, Уругвая і Балівіі. Усе рэдукцыі былі ліквідаваны ў 1767 годзе. Праз 250 гадоў аб гэтым наследдзі айцоў езуітаў будзе прыгадваць падрыхтаваная паломніцкая траса.*

◆ *Сенат ЗША не прыняў закон, які забараняе дзетазабойства немаўлят, што нарадзіліся нягледзячы на аборт. Для яго прыняцця не хапіла 7 галасоў з 60-ці. Закон павінен быў абавязаць урачоў прадастаўляць такім дзецям любую неабходную дапамогу і транспартаваць іх у бальніцу. Сёння, напрыклад, у штаце Нью-Ёрк жанчыны могуць правамерна практычна без абмежаванняў выконваць аборты на працягу ўсёй цяжарнасці. Акрамя таго, пасля кансультацый паміж урачамі і маці можа быць прынята рашэнне аб смерці нованароджанага, г. зн. праведзена эўтаназія.*

◆ *Лаўрэат прэміі "Оскар" 2019 года Рэгіна Кінг, якая атрымала ўзнагароду як лепшая актрыса другога плана ў фільме "Калі б Біл-стрыт магла загаварыць", у сваёй прамове падзякавала за сваё выхаванне маме. "Я вельмі ўдзячна табе за тое, што навучыла мяне: Бог заўсёды з клопатам выходзіць насустрач, Бог заўсёды добры", – сказала актрыса. Гэтыя словы выклікалі ў многіх сабраных слёзы. Кінг сыходзіла са сцэны пад гучныя апладысменты.*

*credo.pro; vaticannews.va; niedziela.pl*

# ДАРОГА ДА ПРАБАЧЭННЯ І АЗДАРАЎЛЕННЯ АД ПАЧУЦЦЯ КРЫЎДЫ



● *працяг са с. 1*

**Адной з галоўных тэм Вялікага посту з'яўляецца прабачэнне. У гэты літургічны перыяд Божае слова скіроўвае позірк вернікаў на міласэрнае прабачэнне іх грахоў і правін Панам, а таксама на неабходнасць шчырага даравання ран бліжняму.**

**Ці існуе хоць адна асоба, якая б не спазнала ў сваім жыцці пачуцця крыўды? Многія церпяць з-за таго, што іх родныя, блізкія, сябры са школы, універсітэта ці працы, людзі на вуліцы і ў розных установах дрэнна да іх адносяцца. На жаль, на кожным этапе жыцця – у дзяцінстве, маладосці, дарослым узросце і ў старасці – чалавеку наносяць большыя ці меншыя раны. Што рабіць з крыўдамі? Дзе і ў каго шукаць суцяшэння і палёгкі ў перажываемым цярпенні?**

## ПРЫКЛАД ДАСКАНАЛАГА ПРАБАЧЭННЯ

Спачатку хачу расказаць пра Чалавека, які стаў ахвярай закону. Ілжыва абвінавачанага на несправядлівым судзе, Яго неправамерна асудзілі на смерць. Гэта былі цяжкія і палітычна неспакойныя часы, таму прысуд трэба было ажыццявіць як мага хутчэй. Напалоханыя вучні пакінулі свайго Настаўніка, толькі Маці і некалькі Яго сяброў засталіся побач. Адчуваючы пакутлівы боль і адрынутасць, Езус сказаў: "Ойча, прабач ім, бо не ведаюць, што робяць" (Лк 23, 34). Пасля чаго сканаў.

Хрыстос паказаў нам, што трэба рабіць з уласнымі крыўдамі і крыўдзіцелямі – прабачаць. Ён выразна падкрэслівае гэта, пакідаючы апосталам малітву "Ойча наш": "...І адпусці нам правіны нашы, як і мы адпускаем вінаватым нашым". Заўважым, што Божае прабачэнне залежыць ад таго, ці даравалі мы сваім крыўдзіцелям. Калі асоба свядома не хоча прабачыць, то нібы просіць: "Ойча, не прабачай мне, бо і я не хачу прабачыць маму бліжняму".

Прабачэнне з'яўляецца адной з асноўных умоў, якія павінны спадарожнічаць малітве, каб яна была выслухана Нябесным Айцом. Калі мы не жывём у міры з бліжнімі, не можам нават наблізіцца да Бога. Езус гаворыць: "Таму, калі прынясеш дар свой да ахвярніка і ўспомніш там, што брат твой мае нешта супраць цябе, пакінь дар свой перад ахвярнікам і ідзі спачатку памірыся з братам сваім, а тады прыйдзі і прынясі свой дар" (Мц 5, 23–24). Гэта зразумелае патрабаванне: калі мы хочам быць хрысціянамі, павінны прабачаць. Але як? Што павінны рабіць, калі рана так баліць, а пачуццё крыўды настолькі жывое, што мы не ў стане прабачыць? Ці калі не здолеем прабачыць, хоць усім сэрцам гэтага прагнем, ужо ніколі не зможам ускласці на алтар свой дар?

## ШЛЯХ ДА ПРАБАЧЭННЯ

Важна ўсвядоміць, што прабачэнне не з'яўляецца толькі адзінкавым актам волі, толькі працэсам. Меркаванне "прабачу і забудуся" дастаткова небяспечнае, таму што крыўда тады трапляе ў падсвядомасць, а рана далей кровататочыць, негатыўна ўплываючы на жыццё. Траўмiраваную руку не ўдасца вылечыць, калі толькі дзьмухаць на яе і паўтараць сабе, што ўсё ў парадку – для гэтага неабходны спецыяльныя працэдуры і, найперш, час. Чым сур'ёзнейшая рана, тым даўжэйшага лячэння яна патрабуе. А спрабуючы штучна паскорыць выздараўленне, рызыкуем нашкодзіць сабе яшчэ больш.

Працэс прабачэння неабходна распачаць з малітвы, каб у праўдзе і пакоры стаць перад самім сабой і Богам, прыйсці да Пана са сваёй крыўдай, каб слухаць Яго словы. Трэба таксама маліцца за сваіх крыўдзіцеляў. Калі рана настолькі глыбокая, што на дадзеным этапе мы не здольны гэтага зрабіць, варта маліцца за сябе, просячы, каб Усемагутны адарыў такой ласкай. Менавіта ад гэтага пачынаецца працэс прабачэння і аздараўлення: трэба хацець прабачыць. Тады з чыстым сумленнем можна прыступаць да сакрамантаў споведзі і св. Камуніі, прамаўляць малітву "Ойча наш".

Маліцца аб прабачэнні роспач і нават злосць. Малітва не церпіць уцёкаў ад рэчаіснасці і прымушае стаць у праўдзе перад сабой і сваімі праблемамі. Тое, чаго не здольны сказаць іншай асобе, можам прызнаць перад Панам. Ён возьме за руку і пойдзе з намі далей. Па дарозе сустрэнем мноства нечаканасцей. Успрымем уласную адказнасць і ўдзел у працэсе прабачэння. Магчыма, зможам зразумець тых, хто прычыніў нам крыўду. Магчыма, усвядомім, што гэтыя людзі таксама з'яўляюцца ўмілаванымі дзецьмі Пана, якіх некалі самі зранілі.

Малітва адкрывае доступ да Божай міласэрнасці, злучае з Усемагутным і адкрывае на Яго любоў. Без яднання са Стварыцелем у нашым жыцці нічога не зменіцца. Размова які перажывае глыбокую рану, павінен стаць перад Усемагутным з усёй сваёй бядой і прыніжанай чалавечай годнасцю. Рашаючым з'яўляецца момант, калі ён усведамляе ўласную бездапаможнасць і, даручыўшы ўсё Айцу, больш не хоча вяртацца да мінулага. Хоць страх, гнеў і жаданне адпомсціць могуць узнікнуць зноў, яны ўжо не стануць пагрозай, паколькі рана, нанесеная чалавечай годнасці, будзе вылечана.

Падчас працэсу прабачэння варта часцей звяртацца да Святога Пісання. Божае слова дапамагае чалавеку зразумець уласныя раны, а таксама сутнасць спачування і міласэрнасці Стварыцеля, які зычліва схіляецца над церпячымі. Асабліва плённымі для ўнутранага ацалення могуць



і аздараўленні можна па-рознаму: псалмамі, пацерамі з малітоўніка, Ружанцам ці Вяночкам да Божай міласэрнасці. Варта таксама паспрабаваць малітвы сваімі словамі, каб уласныя страхі, неспакой, боль, самотнасць ахвяраваць Богу, ускласці ўсё гэта на Яго алтар як дар. Часам гэта можа быць толькі разгубленасць, з Богам – найлепшае лякарства ад крыўды.

Малітва павінна быць пакорнай, таму што пакора вядзе да глыбокай унутранай перамены. А працэс аздараўлення ад пачуцця крыўды з'яўляецца навяртаннем, зваротам да Бога як адзінага Пана і Даўцы жыцця з даверам да Яго надзейнай дапамогі. Чалавек, акказацца разважанні над вучэннем Езуса аб прабачэнні і паяднанні (параўн. Мц 6, 14–15; Мц 18, 21–35), а таксама над аздараўленнямі, якія здзейсніў Месія (напр. Мк 1, 40–44; Лк 8, 43–48; Ян 5, 2–18). У асабліва цяжкія хвіліны варта разважаць аб муках, смерці і ўваскрасенні Хрыста; узяць у рукі крыж і, гледзячы на яго, паўтараць за Езусам: "Ойча, прабач ім, бо не ведаюць, што робяць". Атаясамліванне сябе са Збаўцам прынясе пакрыўджанаму чалавеку суцяшэнне, а памяць пра таямніцу паўстання з мёртвых увасрасціць надзею на вызваленне ад крыўды і болю.

Аднак прабачэнне можа патрабаваць дапамогі не толькі ад Бога, але і ад людзей. У працэсе паяднання неаднойчы варта звярнуцца да псіхолага ці святара, знайсці асобу, якой свабодна можам расказаць аб сваёй крыўдзе. Гэта дапамагае звярнуць уласныя пачуцці ў правільным напрамку, апанаваць негатыўныя эмоцыі і перамагчы іх, бо тады здолеем рацыянальна і спакойна зірнуць на сваю крыўду.

Варта заўважыць, што негатыўныя адносіны, недасканаласць, слабасці і недааацэньванне сябе вынікаюць са шматлікіх ран. Трымаючыся за пачуццё нянавісці, мы крыўдзім сям'ю, сяброў, супольнасць, у якой жывём. Трываючы ў такім стане, сеем вакол сябе зло і дазваляем яму знішчаць дабрабыт іншых людзей. Напрыклад, асобы, якіх крыўдзілі ў дзяцінстве, будучы ўжо бацькамі самі неадночы раняць сваіх дзяцей.

Прабачэнне з'яўляецца сапраўднай свабодай. Вызваляе ад прывязанасці да балючых падзей у мінулым, ратуе ад нянавісці і непрыязнасці. Мы тады здольны кантраляваць першыя парывы адмоўных эмоцый: гневу, абурэння, жадання адпомсціць, каб яны не кіравалі нашымі рашэннямі. Прабачэнне робіць чалавека больш адкрытым на бліжніх і іх цярпенне, а таксама на крыўдзіцеляў, вучыць павазе да іх. Яно з'яўляецца падмуркам станоўчай ацэнкі ўласнай асобы, што дазваляе любіць сябе, прызнаваць сваю вартасць і годнасць, якімі адарыў Усемагутны.

Важна зразумець, што галоўнай прычынай, каб даравацьь камусьці віны, з'яўляемся мы самі. Робім гэта найперш для асабістай карысці. Гнеў, нянавісць, жаданне помсты больш за ўсё шкодзяць асобе, у сэрцы якой нараджаюцца, знішчаючы яе жыццё і спакой. Таму просім добрага Бога дапамагчы нам даследаваць уласны ўнутраны стан, распазнаць крыўды і боль, што дрэнна ўплываюць на жыццё, а таксама ўдзяліць сілы, каб здолець распачаць працэс прабачэння. Няхай Яго гаючая Любоў залечыць нашы жыццёвыя раны.

*Кс. Аляксандр Сямінскі*




# Не 7, а 77 разоў

***Чым старэйшыя мы становімся, тым больш крыўд і здрад маем за плячамі. Чым сталейшыя мы ў веры, тым лягчэй прабачаем. "Тады Пётр падышоў да Езуса і сказаў Яму: «Пане, калі мой брат зграшыць супраць мяне, колькі разоў я павінен прабачаць яму? Ці аж сем разоў?». Езус адказаў яму: «Не кажу табе, што аж сем разоў, але ажно семдзесят сем разоў»" (Мц 18, 21–22).***

### З УЛАСНАГА ВОПЫТУ

Ёсць людзі, якім лёгка ўдаецца прабачаць. Іншыя доўга памятаюць учыненую крыўду, не знаходзячы сіл пагадзіцца з гэтай ранай. Кожны з нас асаблівы і ўспрымае свет па-рознаму. "Калі б кожны меў тое ж самае, ніхто нікому не быў бы патрэбны", – пісаў кс. Ян Твардоўскі ў вершы "Справядлівасць". Прабачэнне таксама з'яўляецца індывідуальнай справай, самай асабістай з магчымых.

Сёння хачу падзяліцца ўласным вопытам. Можа, мне не так шмат гадоў, можа, яшчэ многае наперадзе, можа, нават не маю паняцця, што такое сапраўдная здрада… Аднак за сваё жыццё я атрымала ўжо не адну сур'ёзную рану. Некаторыя загаіліся самі, некаторыя ўсё яшчэ баляць. Над залечваннем адной з іх мусіла дастаткова напрацавацца, каб цяпер – усё ж такі яшчэ няўпэўнена – сказаць: "Дарую. Ад усяго сэрца табе дарую". Хацелася б расказаць пра сваё цяжкае падарожжа да прабачэння, каб на асабістым прыкладзе пераканаць, што часам для гэтага неабходна вельмі шмат часу, веры, цярплівасці і… яшчэ аднаго кампанента, пра які скажу трохі пазней.

Гэты працэс трываў каля 8-мі гадоў… І прызнаюся, што лёгка не было. Калі чалавека не бачыш, не думаеш пра яго – усё добра. Аднак дастаткова было пачуць яго імя, станоўчыя меркаванні пра яго – і ў сэрцы адразу нараджаліся злосць, пагарда, агіда. Жаданне крыкнуць на ўвесь свет, што ён не такі цудоўны, як пра яго гавораць, было мацнейшым, чым здаровы сэнс. А што адбывалася са мной, калі выпадкова сустракала гэтага чалавека. І ўжо не мела магчымасці схавацца, пазбегнуць погляду. Часам я рашалася на халоднае прывітанне, часам адварочвалася ў іншы бок, быццам не заўважыла, быццам нешта іншае прыцягнула маю ўвагу. Я добра разумела, што гэтае пачуццё атручвае маю душу, аднак не давала сабе рады. Плыла па цячэнні, спадзеючыся, што час прыглушыць боль, сатрэ ўспаміны, суцішыць непрыязь.

Міналі гады, але ўсё заставалася без змен. Як хрысціянка я ўсведамляла, што раблю дрэнна. Хацела прабачыць дзеля праўды, якой вучыў Хрыстос, і разам з тым баялася, бо дараваць віну азначала зноў адкрыцца на раны.

Некаторыя святары раілі маліцца за гэтую асобу. Хіба не трэба тлумачыць, як цяжка мне давалася нават адно хуткае "Вітай, Марыя" ў дадзенай інтэнцыі. Аднак, нягледзячы на нежаданне, часам я рашалася на такі патрабавальны для мяне ўчынак. Пакуль нарэшце не ўзялася за гэта сур'ёзна. Я сапраўды вырашыла дараваць і пачала шчыра маліцца. Хоць усё яшчэ не верыла, што змагу, бо ўжо столькі мела няўдалых спроб.

Не памятаю дакладна, колькі мінула часу. Аднак калі я ў чарговы раз убачыла гэтага чалавека, адчула палёгку. У маім сэрцы ўжо не кіпела злосць, панавалі хутчэй спакой і лагоднасць. Я разумела, што нарэшце магу адважыцца на зычлівасць да яго, што ўжо ім не пагарджаю. Што нарэшце прабачыла.

### ШЛЯХ, ВЫСЛАНЫ ПЯЛЁСТКАМІ ЛЮБОВІ

Пасля глыбокіх ран застаюцца шрамы, якія часам могуць турбаваць, нават калі даўно загаіліся. Так адбываецца не толькі з целам, але і з душой. Не трэба баяцца, што надалей баліць, што, можа, надалей штосьці ные ўнутры, калі чую пра гэтую асобу, калі сустракаю яе. Усяму свой час.

Часта на катэхезе, казаннях, рэкалекцыях я чула аб тым, што прабачэнне – гэта працэс, першым крокам якога з'яўляецца наша свядомая пастанова прабачыць. Нават не жаданне, а пастанова. Адважваючыся на дараванне крыўды бліжняму, можна ўсё яшчэ гэтага не хацець. Я не хацела. На працягу некалькіх гадоў аднаўляла сваю пастанову, аднак не магла распаліць жаданне. Баялася, бо ведала, што мяне могуць зноў пакрыўдзіць.

Толькі пасля я ўсвядоміла, што ў гэтай справе патрэбна любоў, бо менавіта яна залечвае нават самыя глыбокія раны. А "ў любові няма страху, але дасканалая любоў праганяе страх, бо страх ёсць з-за боязі перад пакараннем; хто баіцца, той недасканалы ў любові " (параўн. 1 Ян 4, 18). Той, хто не любіць, не можа прабачыць. А палюбіць – значыць перастаць баяцца і адкрыцца на любоў, нягледзячы на рызыку зноў быць параненым.

Любоў вядзе да дасканаласці, г. зн. да святасці. Любоў, якая цярплівая і міласэрная; любоў, якая не пыхлівая і не гневаецца; любоў, якая ўсё зносіць, не памятае зла і ніколі не мінае (параўн. 1 Кар 13, 4–8). Мне не хапала любові. І ўсё яшчэ не хапае, але я ведаю, у Каго яе дастаткова. У Хрыста, якога за аздараўленні ад хвароб прыбілі да крыжа. У Хрыста, якога за праўду збілі. У Хрыста, якога за міласэрнасць высмеялі. У Хрыста, якому за любоў здрадзілі. Хрыстос з'яўляецца непахісным узорам таго, як трэба прабачаць.

Заўсёды, калі Табе цяжка, паглядзі на крыж. Прыгадай, што зрабіў наш Пан для збаўлення чалавека, які не здолеў адказаць любоўю на любоў. Усвядом веліч Яго прабачэння. Памятай, што Ты таксама кагосьці пакрыўдзіў у жыцці, што і Табе хтосьці мусіў дараваць. "Якой мераю мераеце, такой і вам будзе адмерана" (Мк 4, 24). Дык давайце будзем міласэрнымі. Давайце імкнуцца да прабачэння не 7, а ажно 77 разоў.

*Дар'я Мацвеева*




# Кубак вады

Уявіце сабе такую сітуацыю: чалавек, які хоча піць і мае каля сябе кубак вады, проста не працягвае да яго руку і надалей пакутуе ад смагі. Ці ж не дзівак? Здаецца, вазьмі ды напіся! Сітуацыя, зазначу, без падводных камянёў: чалавек не паралізаваны, рукі слухаюцца, вада ў полі зроку, ніхто піць не забараняе… Не п'е, і ўсё. Што ты з ім зробіш? З вадой у пэўным сэнсе яшчэ ўдасца нешта прыдумаць, у горшым выпадку можна прымусіць піць. А з верай? З надзеяй, любоўю Божай і да Бога?

Пагляджу на сябе. Мая прага Пана і той "кубак", які Ён ставіць побач. Не ў завоблачных высях ці на далёкіх выспах, а – умоўна кажучы – на адлегласці выцягнутай рукі. Калі Усемагутны дае, то Ягоны дар багаты, бязмерны, абмежаваны толькі нашай "ёмістасцю", нашым прагненнем. І ў той самы час Божы дар не будзе міргаць агеньчыкамі і чапляцца за вопратку (у адрозненне ад прапаноў зла, трэба адзначыць). Тады паўстае пытанне: чым жа з'яўляецца гэты "кубак вады" для мяне? Пытанне вельмі асабістае, на першы погляд. І ўсё ж – у вымярэнні супольнасці Касцёла – агульнае, бо той вадой можна і трэба дзяліцца з іншымі людзьмі.

"Хто напоіць вас кубкам вады…" (параўн. Мк 9, 41), – гаворыць Езус. Гэта значыць, Ён ведае, што вечні не змогуць заўсёды самі наталіць смагу. Метафара вады, без якой немагчыма фізічнае існаванне, вельмі добра адлюстроўвае важнасць наталення духоўнай смагі. Яна ўпісана ў чалавечае жыццё, і можна толькі дзякаваць Богу, што можам адчуваць прагу і наталяць яе. Агульна кажучы, Ён сам і ёсць Наталенне… Толькі Пан можа па-сапраўднаму і глыбока нас суцешыць. Але як гэта можа быць?

"Шукайце найперш Валадарства Божага" (Мц 6, 33), – наказвае Езус. Здаецца, лягчэй шукаць штосьці падобнае на страчаны рай. Чаму б не пайсці за гэтым жаданнем, калі яно праўдзівае і глыбокае? Звернемся да першых радкоў Бібліі з Кнігі Быцця. Натхнёныя вершы можна прачытаць вельмі асабіста і сучасна. Кожны новы дзень чалавек уваходзіць у створаны Богам свет, як Адам і Ева ў 6-ты дзень стварэння. Маем святло і цемру, ваду і скляпенне нябёсаў, рыб і птушак, жывёл і цэлы Сусвет, маем цела, душу і больш таго – прысутнасць Стварыцеля. І не райскіх пейзажаў мы прагнем, а гэтай прысутнасці, блізкасці, што часта называюць адносінамі з Богам. А Ён не проста памятае пра чалавека, але прапануе жывую рэальную сувязь, сваё сяброўства. Можна сказаць, што Ён чакае людской любові і не маўчыць аб гэтым, запрашае да ўзаемнасці, бо палюбіў першы, і адкрывае чалавеку, што толькі ў любові і магчыма жыццё.

Такім чынам, мы шукаем і тужым па Пану не дарэмна. "У еднасці любові, якой з'яўляецца Бог, – у Ім тры Божыя Асобы маюць узаемную любоў і з'яўляюцца Адзіным Богам, – чалавечая асоба паклікана адкрыць крыніцу і мэту свайго існавання і гісторыі", – сказана ў Кампендыі Катэхізіса Каталіцкага Касцёла (34). Кожны чалавек мае гэтае пакліканне, якое не ўдасца аспрэчыць ці пераканаць сябе, што яго не існуе. Сэрца не перастане прагнуць любові, якой з'яўляецца Усемагутны. І як цудоўна, што Ён шчодра і ахвотна наталяе людское прагненне.

Зноў вяртаемся да кубка вады. Але не дзеля таго, каб спрасціць неверагодныя, таямнічыя і невымоўныя рэчы, але каб пачаць урэшце піць жывую ваду, пачаць жыць, адкрываць Божую любоў і адказваць на яе. Час ад часу варта нагадваць сабе пра патрэбу ўважлівага слухання ў адносінах з іншымі людзьмі і ў адносінах з Панам, якія, у сваю чаргу, немагчыма ўявіць без малітвы. Яна з'яўляецца тым незнішчальным і жыццядайным кубкам вады для чалавека ў любым месцы і абставінах.

Пакуль выйдзе наступны матэрыял, прапаную разгледзецца ў тым "райскім садзе", які кожную раніцу па Божым слове вітае нас у гэтым жыцці. Двукоссе для "раю" на зямлі нібыта і патрэбна пасля з'явы першароднага граху. Але адначасова яго можна скасаваць, калі з удзячнасцю і захапленнем прывітаць гэтую вясну і ўвесь створаны свет, а таксама тых, хто жыве ў ім побач з намі.

*Тэрэса Клімовіч*




### Будслаўскі фэст 2019

***Сёлетнія ўрачыстасці ў Нацыянальным санктуарыі Маці Божай Будслаўскай адбудуцца 5–6 ліпеня.***

*Упершыню Будслаўскі фэст будзе адзначацца як прызнаная ЮНЕСКА частка нематэрыяльнай спадчыны чалавецтва. Яго дэвіз – "Каралева сем'яў, маліся за нас" – суадносіцца з тэмай душпастырскага года, абвешчанай Канферэнцыяй Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі: "Сям'я – крыніца радасці і надзеі моладзі".*




### Апаганьванне Кальварыі Панэўніцкай

***Распачалося следства па справе прафанацыі капліц пры базіліцы айцоў францысканцаў у Катавіцах-Панэўніках (Польшча). Незнаёмцы намалявалі пентаграмы і сатанінскія слоганы на помніках і зафарбавалі чорным вочы фігур.***

*Паліцыя ўжо перадала следчым сабраныя па гэтай справе матэрыялы, перш за ўсё запіс маніторынгу. Гаворка ідзе ўжо не толькі аб абразе рэлігійных пачуццяў і знішчэнні ўласнасці, за якія прадугледжана пакаранне 5 гадоў пазбаўлення волі. З новых даных пракуратуры вынікае, што магло дайсці да злачынства знішчэння гістарычных помнікаў. Вінаватым пагражае за гэта да 10-ці гадоў турмы.*




### Вялікая пятніца – вольны дзень у Аўстрыі

***Кіраўніцтва краіны канчаткова вырашыла, што кожнай працуючай асобе, згодна з правіламі аб водпусках, належыць асабісты вольны дзень, што зробіць магчымым правядзенне яго адпаведна веравызнанню.***

*Пра намер выкарыстаць гэты дзень працаўнік павінен будзе праінфармаваць працадаўцу за 3 месяцы. Гэты перыяд карацейшы толькі ў 2019 годзе.*

*"Лыжкай дзёгцю" з'яўляецца толькі тое, што гэта будзе адбывацца за кошт адпускных дзён.*




### Ці забараняе Касцёл кадзіравацца ад залежнасцей?

*Залежная асоба знаходзіцца ў асаблівай сітуацыі, звязанай з абмежаваннем яе свабоды. Нягледзячы на прычыну ўзнікнення праблемы, такі чалавек патрабуе адпаведнай дапамогі: у першую чаргу сваіх блізкіх, а таксама людзей, якія займаюцца лячэннем залежнасцей на прафесійным узроўні.*

*Трэба адзначыць, што працэс выхаду з залежнасці патрабуе часу, цярплівасці і руплівай працы над сабой. У некаторых асабліва складаных выпадках неабходна прайсці курс лячэння ў медыцынскіх установах. Дык ці забараняе Касцёл кадзіравацца ад залежнасцей?*

*Клопат пра жыццё і здароўе ў фізічным, псіхічным і духоўным вымярэннях з'яўляецца часткай навучання Каталіцкага Касцёла, якое гаворыць аб тым, што вернік, згодна са сваім сумленнем, павінен прымаць такія рашэнні, якія дапамогуць яму рэалізаваць Божы план у сваім жыцці. Такім чынам, веруючая асоба, якая разглядае варыянт кадзіравання, павінна захоўваць вялікую асцярожнасць і пільнасць у тым, каб выбраць сапраўды бяспечны метад лячэння. Няхай нават гэта будзе звязана з працяглым працэсам рэгенерацыі арганізма, фізічнай і духоўнай сферы. Неабходна, каб чалавек ацаліўся цалкам і быў здольны прымаць свядомыя, дабравольныя і доўгатэрміновыя рашэнні адносна сваёй будучыні. Неацэннай у гэтай сітуацыі стане малітоўная дапамога з боку родных і сяброў залежнага.*

*Адначасова з тым, што кадзіраванне ад залежнасцей з'яўляецца адным з папулярных метадаў лячэння ў сучасным свеце, адносна яго існуюць шматлікія супярэчлівыя меркаванні: ад пазітыўных да негатыўных. Напрыклад, у інтэрнэт-даведніку "Вікіпедыя" аўтар артыкула пра кадзіраванне вельмі негатыўна ацэньвае гэты метад, называючы яго шарлатанствам. Сапраўды, на сёння мы маем недастаткова інфармацыі, каб ацаніць дадзены спосаб лячэння з маральнага пункту гледжання. Ён слаба даследаваны. Але калі гэтае меркаванне, размешчанае ў "Вікіпедыі", лічыць абгрунтаваным, то кадзіраванне трэба прызнаць не толькі амаральным, але і нязгодным са здаровым сэнсам.*

*Выкарыстоўваючы розныя метады лячэння залежнасці, неабходна ўсведамляць, якой моцай праводзіцца тая ці іншая тэрапія. Катэхізіс Каталіцкага Касцёла перасцерагае вернікаў ад усякіх практык, звязаных з магіяй ці зваротам да д'ябла. У выпадку сутыкнення з праблемай залежнасці пажадана, канешне, карыстацца дапамогай хрысціянскіх псіхолагаў, псіхатэрапеўтаў, псіхіятраў і ўрачоў, якія ў сваёй дзейнасці кіруюцца прынцыпамі Евангелля. Са свайго боку вернікі павінны старацца (наколькі гэта магчыма) шукаць і карыстацца дапамогай такіх спецыялістаў.*

*А. Аркадзь Куляха OCD*
***Паводле grodnensis.by***

# Я – дачка Бога. Раскрываючы сябе праз рэкалекцыі

***8 сакавіка ў свеце адзначаецца Міжнародны жаночы дзень. Гэта свята тых, хто з натуры пакліканы дарыць. Даваць не толькі жыццё, але і клопат. Падтрымліваць не толькі дзіця, але і кожнага чалавека, што аказаўся побач.***

***Сёння жанчына асацыіруецца не толькі з далікатнасцю, прыгажосцю і любоўю, але і са стойкасцю, першынством, спрытнасцю. Вучыцца ўзгадоўваць у сабе пазітыўныя ўласцівасці дапамагае Касцёл, які мае шмат адпаведных прапаноў. Адна з іх – духоўныя практыкаванні.***



2 гады таму ў невялікім маляўнічым мястэчку Адамавічы недалёка ад Гродна, дзе ўжо на працягу чвэрці стагоддзя служаць сёстры кармэліткі Дзіцятка Езус, нарадзілася ідэя правядзення рэкалекцый для дзяўчат. З таго часу некалькі разоў у год на духоўныя практыкаванні з'язджаюцца каля 20-ці школьніц і студэнтак з парафій нашай дыяцэзіі і з па-за яе межаў.

Як адзначае с. Ідалія, некаторыя прыбываюць сюды з асэнсаванай мэтай спаткаць Бога і саміх сябе. Іншым патрэбна сабрацца з думкамі і сіламі, каб вырашыць пэўнае пытанне. Ёсць тыя, хто хоча прыемна, у ціхай радасці правесці свой вольны час, або тыя, хто нават не ведае, навошта яны тут. ***"Апошнія прыязджаюць са сваімі гаджэтамі і ў першую чаргу пытаюць пароль ад wi-fi,*** – распавядае з усмешкай манахіня. – ***Але ў нас дзейнічае правіла: усе 3 дні – без тэлефонаў і інтэрнэту. Калі прыязджаеш на рэкалекцыі, лепш пакінуць увесь свой «багаж» за дзвярыма. Гэта дапаможа сканцэнтравацца на галоўным".***

На распачацце рэкалекцый сёстры заўсёды праводзяць уступную сустрэчу, падчас якой знаёмяць дзяўчат з сутнасцю духоўных практыкаванняў. Затым просяць напісаць на картках мэту свайго прыезду. Такім чынам удзельніцы вучацца важнай рэчы – шчырасці перад самой сабой. ***"Незалежна ад сур'ёзнасці намераў, кожная інтэнцыя вельмі важная",*** – упэўнена сястра.

Манахіня акцэнтуе ўвагу на тым, што яны не арганізоўваюць рэкалекцыі па распазнанні паклікання: ***"Мы вучым быць блізка Бога. А калі чалавек знаходзіцца побач з Госпадам, ён без праблем знойдзе свой жыццёвы шлях".***

Да духоўных практыкаванняў сёстры кармэліткі рыхтуюцца задоўга да іх правядзення. Разам моляцца за дзяўчат, яшчэ нават не ведаючы, хто да іх прыедзе. Просяць Пана, каб ніхто не вярнуўся дамоў з тым самым духоўным заплеччам, з якім прыбыў. Моляцца за святара, які будзе прамаўляць канферэнцыі, і паралельна шукаюць адпаведную тэму будучай сустрэчы. ***"Звычайна мы стараемся прывязаць яе да літургічнага перыяду. Калі спатканне плануецца на час Вялікага посту, разважаем пра ахвярнасць у любові, а падчас актавы Усіх Святых – пра праведнасць у штодзённасці. Аднак разам з тым мы заўсёды адкрыты на прапановы ўдзельніц",*** – адзначае с. Ідалія.



Галоўная мэта рэкалекцый – дапамагчы дзяўчатам усталяваць праўдзівыя адносіны з Госпадам, развіць у іх дух Божага дзяцінства. ***"Бязладдзе ў жыцці пачынаецца тады, калі чалавек не мае пад сабой надзейнага фундамента,*** – заўважае манахіня. – ***Адносіны паміж Хрыстом і Богам Айцом з'яўляюцца тым узорам, паводле якога варта класці аснову. Езус праз усё жыццё застаецца Дзіцём свайго Айца, бясконца любіць Яго і бязмежна Яму давярае. Праз уласную муку і смерць Збаўца здабыў нас для Бога і прагне, каб мы таксама ва ўсім спадзяваліся на Нябеснага Тату. Мы хочам, каб дзяўчаты будавалі ўласны падмурак не ў адзіночку, але разам з Хрыстом, абапіраючыся на Евангелле. Тады ў будучыні яны будуць мець непахісную падтрымку".***

Насычаная праграма рэкалекцый запрашае ўдзельніц стаць у прысутнасці Езуса і весці з Ім дыялог. Штодня дзяўчаты адаруюць Хрыста ў Эўхарыстыі, сам-насам размаўляюць з Ім на працягу гадзіны. Разважаюць над урыўкамі з Бібліі і дзеляцца паміж сабой уласнымі меркаваннямі. Практыкуюць "час пустыні". Гэта 2-3 гадзіны, калі кожная з удзельніц шукае сабе месца, дзе можна застацца адзін на адзін з сабой і Богам, у цішыні. Хтосьці знаходзіць куток у кляштары, а нехта сядае ў садзе пад дрэвам. Там дзяўчаты думаюць аб тым, што пачулі падчас канферэнцый або прачыталі ў Пісанні. Вырашаюць уласныя праблемы або працуюць над спецыяльнымі заданнямі, атрыманымі ад сясцёр. ***"Са слоў дзяўчат ведаю, што прабыванне ў цішыні – самае складанае ў праграме. Ім цяжка або заняць свае думкі, або разабрацца з іх колькасцю. Аднак пасля чую, што гэтыя хвіліны прыносяць найлепшы вынік",*** – дадае с. Ідалія.

Рэкалекцыі – гэта не толькі час, праведзены паасобку дзеля лепшага пазнання свайго "я". ***"На Эўхарыстыі нас злучае алтар, дзе прымаем Цела Езуса, а пасля – супольны пасілак. Стол заўсёды яднае,*** – адзначае з усмешкай сястра. – ***Мы часта ўсе разам выходзім на шпацыр у блізкі барок. У нязмушанай атмасферы дзяўчаты хутчэй адкрываюцца, дзеляцца асабістымі перажываннямі. З некаторымі ў нас ужо ўсталяваліся сяброўскія адносіны: мы тэлефануем адна адной, сустракаемся. Дзяўчаты звяртаюцца да нас за парадамі, а мы шчаслівыя весці іх па надзейнай сцежцы".***

***"Галоўнага вачыма не ўбачыш",*** – узгадвае сястра словы Антуана дэ Сэнт-Экзюперы, калі гаворыць пра вынікі рэкалекцый. ***"Калі плён ёсць – хвала Пану! Няхай дзяўчаты карыстаюцца",*** – падсумоўвае манахіня.

*Ангеліна Марцішэўская*



***Марыя Углік,***
*20 гадоў*

### Ці дапамагае ўдзел у рэкалекцыях вырашаць асабістыя крытычныя сітуацыі?

*Мне неаднаразова даводзілася сутыкацца ў жыцці з цяжкасцямі. Некаторыя з іх вырашала з лёгкасцю, іншыя патрабавалі больш часу, сіл і нерваў. Аднойчы давялося перажыць сапраўды "чорную паласу". Усё пачалося з дробных праблем у гаспадарцы. Затым здарыўся пажар. Пачаліся праблемы са здароўем бабулі. Сур'ёзна захварэў тата, а пасля і мама... Нягоды навальваліся, як снежны камяк, і здавалася, што выхаду з іх не знайсці. Я была зусім панікшая, сканцэнтраваная выключна на праблемах – жыла без радасці...*

*Незадоўга да гэтых здарэнняў я запісалася на рэкалекцыі да сясцёр кармэлітак. Загразшы ў клопатах, думала адмовіцца ад удзелу, але ўсё ж такі вырашыла далучыцца да іншых дзяўчат. Добра памятаю, што ў першы дзень мы бурна разважалі над Евангеллем: кожны выказваў адрознае меркаванне. Пасля супольна паманіліся, паспавядаліся і ў цішыні адаравалі Езуса. Менавіта апошні пункт духоўных практыкаванняў дапамог мне выпрастацца і, упершыню за апошні час, удыхнуць на поўныя грудзі. Выказаўшы Богу ўсё, што са мной здарылася, усе думкі і перажыванні, я па-новаму зірнула на цяжкасці. Знайшла шляхі вырашэння некаторых з іх і здабыла Крыніцу суцяшэння там, дзе не магла справіцца самастойна.*

*Досвед перажытых рэкалекцый паказаў мне, што Бог – стратэг, які заўсёды пралічвае на некалькі крокаў наперад. Цяпер я ўсведамляю, што трэба ва ўсім давяраць Госпаду і адпускаць сітуацыю, калі не можаш вырашыць яе сваімі сіламі.*



***Вікторыя Казлоўская,***
*18 гадоў*

### Які плён прыносяць рэкалекцыі?

*Мне падабаецца ўдзельнічаць у духоўных практыкаваннях. Гэта час, калі можна абстрагавацца ад штодзённых спраў і цалкам прысвяціць сябе Богу: аддаць Яму ўсе свае крыўды, смуткі, радасці, патрэбы.*

*На рэкалекцыях я пазнаю зблізку знаёмых дзяўчат і вучуся адкрывацца на новых людзей. Падчас духоўных практыкаванняў заўсёды знаходжу адказы на турбуючыя пытанні. Штораз атрымліваю новы досвед і веды, сталею як хрысціянка.*

*Вяртаючыся з рэкалекцый, я адчуваю ў сабе шмат сіл, святла і духоўнай радасці. Усім, што атрымала, хачу дзяліцца з іншымі людзьмі. Хачу станавіцца лепшай і дабрэйшай.*



***Нэлі Болдак,***
*22 гады*

### Якія якасці можна выхаваць у сабе падчас духоўных практыкаванняў?

*Я заўсёды з задавальненнем занураюся ў атмасферу, якая пануе ў кляштары сясцёр кармэлітак: адрываюся ад клопатаў, мітусні, звычайных будзённых рэчаў. Там удаецца настроіцца на адпаведны лад: пачуць голас Бога, разабрацца ў сваіх перажываннях, набрацца ўнутранай моцы.*

*Акрамя гэтага, я заўсёды назіраю за адносінамі паміж манахінямі. Шчыра кажучы, іх узаемныя стасункі – гэта першае, што кідаецца ў вочы. У размовах заўсёды чутна пашана, у дзеяннях – уступкі. Яны дапамагаюць адна адной і ў дробязях, і ў больш значных справах. У гэтым пакорным стаўленні не адчуваецца фальшы, толькі любоў.*

*На рэкалекцыях збіраецца шмат дзяўчат з рознымі характарамі, тэмпераментамі і густамі, і мы не заўсёды разумеем адна адну. Аднак, гледзячы на сясцёр, кожная з нас намагаецца прыняць іншую такой, якая яна ёсць. Я ўпэўнена, што пасля ўдзелу ў духоўных практыкаваннях мы вяртаемся дадому крыху больш цярплівымі, пакорлівымі, спагаднымі і разважлівымі.*

## НАВІНЫ



## СВЯТА СВ. КАЗІМІРА

У Гродзенскай дыяцэзіі адзначылі свята св. каралевіча Казіміра, заступніка лакальнага Касцёла. З гэтай нагоды ва ўсіх парафіях адбыліся св. Імшы, падчас якіх вернікі ўзносілі свае малітвы да Бога праз пасрэдніцтва святога заступніка.

У дзень адпусту біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч наведаў парафію св. каралевіча Казіміра ва Уселюбе (дэканат Навагрудак). На літургіі ў адной са старажытнейшых каталіцкіх святынь Беларусі сабраліся шматлікія вернікі. Падчас свята адбылося ўрачыстае размяшчэнне ў касцёле фігуры Маці Божай і распачацце Яе ўшанавання пад тытулам Маці Божай Новага Жыцця. Праз заступніцтва Найсвяцейшай Панны Марыі вернікі змогуць выпрошваць дар бацькоўства і адновы хрысціянскага жыцця.

З нагоды дыяцэзіяльнага свята ў гродзенскай катэдры св. Францішка Ксаверыя на малітве сабраўся катэдральны капітул, заступнікам якога з'яўляецца св. Казімір. Канонікі канцэлебравалі св. Імшу, якую ўзначаліў дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі.

У гонар св. Казіміра, заступніка рамеснікаў, у Гродне адбыўся кірмаш. На цэнтральных вуліцах горада можна было набыць разнастайныя ўласнаручна выкананыя вырабы, пачынаючы ад велікодных вербаў, праз вырабы са скуры і керамікі, заканчваючы арыгінальнымі фігуркамі і карыснымі рэчамі з жалеза – шэдэўрамі кавальскага майстэрства. Традыцыйны рамесніцкі кірмаш адбываецца кожны год.

### КУЛЬТУРНЫЯ ПАДЗЕІ



Гурт "Laudans" з Брэста выступіў з канцэртам у парафіяльным касцёле св. Тэрэзы Авільскай у Шчучыне. Дуэт выканаў песні са свайго новага альбома "Звязаны з часам", а таксама іншыя творы.

Біскуп Юзаф Станеўскі наведаў гала-канцэрт фестывалю "Каложскі дабравест", які па ініцыятыве Праваслаўнай Царквы і мясцовых улад штогод адбываецца ў Гродне, а таксама прыняў удзел у цырымоніі ўзнагароджання яго пераможцаў.

Дэлегацыя працаўнікоў каталіцкіх СМІ Гродзенскай дыяцэзіі прыняла ўдзел у святкаванні 25-годдзя заснавання часопіса "Дыялог" у Баранавічах (Пінская дыяцэзія). Напачатку адбылася св. Імша, а пасля – юбілейная праграма.

Перад распачаццем Вялікага посту ў многіх парафіях дыяцэзіі прайшлі забавы і вечарыны для дзяцей і моладзі. Яны сталі цудоўнай нагодай для інтэграцыі і ўмацавання маладой супольнасці вернікаў.

### ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНЫЯ ДУШПАСТЫРСТВЫ



Падсумаванне XXXIV Сусветных дзён моладзі, якія праходзілі ў Панаме, адбылося ў Гродне. Удзельнікі сусветнага форуму падзяліліся сваімі ўражаннямі і ўспамінамі аб нядаўняй падзеі. Сустрэчу арганізаваў душпастыр моладзі Гродзенскай дыяцэзіі кс. Антоній Грэмза. У ёй таксама прынялі ўдзел біскуп Юзаф Станеўскі, адказны ў епіскапаце Беларусі за душпастырства моладзі, і кс. Ян Раманоўскі, старшыня сінадальнай камісіі па справах моладзі.

### АДНЫМ РАДКОМ

• Дзень засяроджання для дзяўчат арганізавалі сёстры св. Кацярыны ў Крамяніцы (дэканат Ваўкавыск). • Сёстры кармэліткі з Гудагая (дэканат Астравец) прынялі на 3-дзённых рэкалекцыях групу вучаніц і студэнтак. • У сувязі з пачаткам дыпламатычнай місіі пасол Чэхіі ў Беларусі Томаш Пярніцкі здзейсніў візіт ветлівасці да біскупа Гродзенскага Аляксандра Кашкевіча. • Спартыўныя мерапрыемствы для дзяцей адбыліся ў араторыі св. Яна Боско ў Смаргоні і ў кляштары айцоў піяраў у Шчучыне. • Каманда святароў Гродзенскай дыяцэзіі заняла на XIII Чэмпіянаце Еўропы сярод каталіцкіх святароў па міні-футболе 12-ае месца. • Літургічная служба алтара смаргонскай парафіі св. Яна Паўла II здзейсніла паездку ў Мінск. • Дзень засяроджання для ксяндзоў, якія служаць у Гродзенскай дыяцэзіі, прайшоў у будынку Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне. • У воранаўскай парафіі свсв. апосталаў Сымона і Юды Тадэвуша (дэканат Радунь) і лідскай парафіі Унебаўзяцця НПМ павялічылася кола міністрантаў. • Малітва супраць антысемітызму і нацызму з удзелам вернікаў розных канфесій адбылася ў Гродне. • Адышоў у вечнасць кс. Генрых Барушэўскі SDB, які ў 1990–1997 гадах служыў у Крэве (дэканат Смаргонь) і Барунах (дэканат Ашмяны).

*Агляд навін падрыхтаваны на аснове інтэрнэт-старонкі* **grodnensis.by**

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**10 сакавіка 1932 г.** – кс. Вінцэнт Сідорскі, *проб. Дуды;*
**10 сакавіка 1943 г.** – кс. Аляксандр Аўгустыновіч, *проб. Нецеч;*
кс. Альфонс Бароўскі, *проб. Лядск;*
кс. Францішак Цыбульскі, *проб. Трабы;*
кс. Стэфан Дабравольскі, *проб. Беліца;*
кс. Вінцэнт Лабан, *проб. Ліда;*
кс. Люцыян Мрачкоўскі, *вік. Ліда;*
кс. Юрый Ажароўскі, *проб. Ліпнішкі;*
кс. Стэфан Снягоцкі, *вік. Ліда;*
**12 сакавіка 1969 г.** – кс. Ян Велькевіч SDB, *проб. Дзятлава;*
**21 сакавіка 1964 г.** – кс. Юльян Бароўка, *проб. Рэпля.*

## АНОНСЫ

### РЭКАЛЕКЦЫІ ДЛЯ ДЗЯЎЧАТ АДБУДУЦЦА Ў НАВАГРУДКУ

**Дэвізам духоўных практыкаванняў будуць словы: "Кожны, хто пакліча імя Пана, будзе збаўлены" (Дз 2, 21).**

Рэкалекцыі арганізоўваюць манахіні з Кангрэгацыі Сясцёр Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта. Яны пройдуць 26–28 сакавіка ў кляштары сясцёр назарэтанак (вул. Першамайская, 26).

Да ўдзелу запрашаюцца вучаніцы 8–11 класаў з усёй Беларусі.

*Запіс і дадатковая інфармацыя па тэлефонах:*
*(8 033) 321-26-33 – с. Клара CSFN;*
*(8 033) 621-44-22 – с. Назарыя CSFN.*

### РЭКАЛЕКЦЫІ ЦВЯРОЗАСЦІ ПРОЙДУЦЬ У БАРАНАВІЧАХ

**Арганізатары запрашаюць да ўдзелу ўсіх, каго хвалюе праблема алкагалізму і наркаманіі ў Беларусі.**

Рэкалекцыі адбудуцца 15–17 сакавіка ў доме айцоў вербістаў па адрасе: вул. Шаўчэнкі, 6.

*Больш падрабязную інфармацыю можна атрымаць па тэлефоне: (8 033) 325-57-64 – Юрый Гапонік.*

### СУЖЭНСКІЯ РЭКАЛЕКЦЫІ АДБУДУЦЦА Ў БАРАНАВІЧАХ

**Сустрэчы пройдуць 29–31 сакавіка па адрасе: вул. Шаўчэнкі, 6.**

Унікальная аўтарская праграма, арганізаваная рухам "Сужэнскія сустрэчы", здольна дапамагчы сужэнцам па-новаму паглядзець адно на аднаго і на свае адносіны, адрадзіць эмацыянальную сувязь паміж сабой. Запрашаюцца сем'і незалежна ад канфесійнай прыналежнасці і ад таго, жывуць яны ў шлюбе або толькі распісаны ў ЗАГСе.

*Усім неабходным удзельнікі забяспечваюцца. Абавязковыя ўмовы: прысутнасць на сустрэчах абодвух сужэнцаў (без дзяцей), удзел ва ўсёй праграме рэкалекцый.*

*Тэлефоны для запісу: (8 029) 529-93-50 – Аляксандр; (8 029) 644-26-05 – Святлана.*

### ПАРАФІЯ Ў КАРОБЧЫЦАХ ЗАПРАШАЕ Ў ПІЛІГРЫМКІ Ў ПОЛЬШЧУ

Першае паломніцтва, арганізаванае парафіяй св. Максімільяна Кольбэ і св. Станіслава, біскупа, запланавана на 16–19 мая. Пілігрымы наведаюць Каліш, Вроцлаў, Чанстахову; прымуць удзел у св. Імшы ў санктуарыі св. Юзафа і ў капліцы цудатворнага абраза Маці Божай Яснагорскай. Другое паломніцтва адбудзецца 22–25 жніўня і будзе звязана з наведваннем месцаў, асабліва звязаных са служэннем і жыццём кард. Караля Вайтылы, пазней папы Яна Паўла II. Пілігрымы наведаюць Кракаў, Кальварыю Зэбжыдоўску, Закапанэ і Вадавіцы.

*Атрымаць больш падрабязную інфармацыю і запісацца можна па тэлефонах: (8 0152) 67-47-24, (8 029) 583-07-02, (8 029) 887-10-24.*

### РЭКАЛЕКЦЫІ Ў КАРМЭЛІЦКІМ ДУХУ АДБУДУЦЦА Ў МЯДЗЕЛІ

**Айцы кармэліты босыя запрашаюць на час духоўнага аднаўлення ў духу св. Тэрэзы ад Езуса (Авільскай), св. Яна ад Крыжа, св. Тэрэзы ад Дзіцятка Езус і іншых святых кармэліцкага ордэна.**

План рэкалекцый на 2019 год:
7–9 чэрвеня – "Спецыфіка кармэліцкай малітвы", а. Андрэй Авен OCD;
23–25 жніўня – "Умовы добрай малітвы", а. Юрый Находка OCD;
23–27 верасня – рэкалекцыі для святароў;
13–15 снежня – "У садзе св. Тэрэзы ад Езуса – шлях духоўнага жыцця", а. Сяргей Трысцень OCD.

*Рэкалекцыі пройдуць у манаскім доме айцоў кармэлітаў у Мядзелі.*

*Па пытаннях запісу звяртацца па тэлефонах: (8 0179) 72-29-00, (8 029) 557-69-12 – а. Генрых Валэйка OCD; або праз электронную пошту: karmelmiadziel@gmail.com*

## Каляндар падзей

***10 сакавіка***
*І Нядзеля Вялікага посту.*

***13 сакавіка***
*6-ая гадавіна абрання папы Францішка на Святы Пасад. Молімся за Пантыфіка, каб яго пастырская паслуга прыносіла шчодры плён.*

***17 сакавіка***
*ІІ Нядзеля Вялікага посту.*

***19 сакавіка***
*Урачыстасць св. Юзафа, Абранніка НПМ. Дзень імянін дапаможнага біскупа Гродзенскай дыяцэзіі Юзафа Станеўскага.*

***У Вялікім посце заахвочваем да ўдзелу ў Песнях жальбы і Крыжовым шляху.***

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Сакавік***

*Аб духу пакоры і дары навяртання для людзей, залежных ад розных дрэнных звычак, а таксама аб духоўным аднаўленні для абыякавых хрысціян. Аб шчодрым духоўным плёне Дыяцэзіяльнага сінода.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім. Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё.*

***Інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі grodnensis.by***
*Асвятленне падзей з жыцця Касцёла на Гродзеншчыне. Даступны фота- і відэаматэрыялы.*

Дзіцячы куточак

# Папяльцовая серада – пачатак Вялікага посту

***У Папяльцовую сераду святар пасыпае галовы вернікаў попелам і паўтарае словы: “Кайцеся і верце ў Евангелле” або “Памятай, ты – прах, і ў прах вернешся”. Гэта сімвалізуе пакаянне, з якім хрысціянін павінен пачаць пост. Попел мае быць з пальмовых галінак, асвечаных у Вербную нядзелю мінулага года. Галіны спальваюцца, а сабраны попел асвячаецца. Агонь, які спальвае галіны вербаў, сімвалізуе агонь кахання, які ператварае ўсё грэшнае ў попел. Пасля літургіі Папяльцовай серады вернікі выходзяць са святыні з крыжыкам з попелу на ілбе, як бы несучы яго ў свет. А цяпер прапаную Табе прачытаць цікавае апавяданне пра попел, якое я некалі пачула.***

*Перад пачаткам Вялікага посту закрыстыянін выняў з шафы скрынку, у якой знахадзіўся попел, і высыпаў яго на сподак. Кожнае зярнятка попелу, здаецца, мела вялікае жаданне пагаварыць.*

*– Уф, нарэшце… Я больш не магло знаходзіцца ў гэтай срынцы, – прабарматала першае зярнятка попелу. – Ужо год мінуў з таго, як мы ўсе ляжалі на сподку.*

*– Так, ты маеш рацыю. Мы былі настолькі шчыльна ўтрамбаваныя ў гэтай скрынцы, што заснулі, – сказала, пазяхаючы, другое зярнятка. – А адкуль ты прыйшло?*

*– О, я было галінкай аліўкавага дрэва. А ты? – пацікавілася першае зярнятка.*

*– Шчыра кажучы, не ведаю. Я было малое і няўважлівае… Але ж давай паслухаем, што скажуць іншыя, – адказала другое зярнятка.*

*– Эй, прачніцеся! Раскажыце, з якіх дрэў вы паходзіце? – гучна спытала першае зярнятка.*

*І тут усе пачалі распавядаць, адкуль яны прыйшлі, як прыгожа выглядала расліна, часткай якой яны былі.*

*Раптам хтосьці заўважыў, што адно маленькае зярнятка нічога не распавядае, толькі ціхенька прытуляецца да іншых.*

*– Малое, а чаму ты нічога не кажаш? Як ты тут апынулася? – спытала першае зярнятка.*

*– Дрэва, з якога я паходжу, расло не ў такім прыгожым месцы, як вашыя. Я нарадзілася ў садзе побач з гэтым касцёлам, – сарамліва адказала ціхае зярнятка. – Так здарылася, што ў мінулым годзе не хапіла прынесеных галінак, каб упрыгожыць касцёл перад Вербнай нядзеляй. Тады адна жанчына пабегла да святара і прапанавала ўзяць галінкі з яе вербнага дрэва. Узрушаны святар пагадзіўся і пайшоў разам з ёю ў сад. Зразаючы галіны, жанчына пяшчотна прыгаворвала: “Прабач мяне, але я хачу ахвяраваць цябе для Бога”. У пэўны момант святар звярнуўся да яе: “Паглядзіце, я магу ўзяць гэтую прыгожую галінку? Панясу яе ў працэсіі”. Пагладжваючы галіну (а гэта было я), жанчына зрэзала яе і працягнула святару.*

*– Як прыгожа! – адазваліся зярняткі попелу.*

*Зерне засаромелася, а пасля адказала:*

*– Не зусім. Пасля працэсіі, што скончылася ў нядзелю, мяне паставілі з іншымі галінкамі, якія падрыхтавалі для спалення.*

*– Дык гэта ж добра! І тое ж самае здарылася з намі, – заўважыла першае зярнятка.*

*– Прабачце, ужо мінуў год, але я ніяк не магу пагадзіцца з гэтай сітуацыяй, яна здаецца мне няправільнай. Я не спала, як вы ўсе, плакала і – самае галоўнае – не ўбачыла іншых зярнятак попелу з маёй галіны, – усхліпваючы сказала зярнятка.*

*– Эй, мы тут! – адгукнулася адно вясёлае зярнятка попелу, якое было з той жа галінкі. – Замест таго, каб плакаць, лепш бы папрасіла нас усё табе патлумачыць.*

*– Дазволь, я растлумачу табе, якую ласку ты атрымала, – прапанавала першае зярнятка. – Усе галінкі, што знаходзіліся ў касцёле, былі спалены ў Велікодную ноч. Памятаеш пра гэта? Памятаеш, колькі там было людзей? Памятаеш, як святар узяў агонь, які мы зрабілі, каб распаліць Пасхальную свечку, якая з’яўляецца сімвалам уваскрослага Езуса? Памятаеш, што ад гэтай свечкі была запалена кожная свечка ў касцёле?*

*– Так, памятаю, але тады я не разумела, што адбывалася... Думала толькі аб тым, што была часткай прыгожага дрэва, – зноў сарамліва адказала ціхае зярнятка.*

*– Ты больш прыгожае цяпер, нягледзячы на тое, што з’яўляешся малюсенькім зярняткам попелу ад спаленай галінкі, – заўважыла першае зярнятка.*

*– На самой справе? З мінулага года я заўсёды адчувала віну, таму што нічога не вартае, нават у якасці хованкі для птушак, калі ідзе дождж, – са слязьмі прамовіла ціхае зярнятка.*

*– Усміхніся! Ведаеш, у тую ноч, калі быў запалены новы агонь як сімвал новага Святла, шматлікія зярняткі попелу пайшлі ў неба. Некаторыя “зніклі без вестак”, а іншыя, як мы, засталіся тут. Людзі пачакалі, пакуль вогнішча астыне, а затым сабралі ўсе зярняткі попелу і паклалі ў скрынку. Цяпер жа святар пасыпле нас на галовы шматлікім людзям і скажа: “Кайцеся і верце ў Евангелле”. Мы, дробныя зярняткі попелу, будзем шаптаць, што Святло ад Пана гарыць і асвятляе кожную думку. Такім чынам, мы ўсе шчаслівыя, бо з’яўляемся прыладай Бога: будзем рассейвацца над галовамі многіх добрых людзей. На пачатку мы былі галінкамі, а зараз з’яўляемся зярняткамі попелу, вельмі шчодрымі сведкамі Святла.*

*Пасля гэтых слоў усе зярняткі змоўклі. Кожнае пачало думаць аб тым, якое вялікае заданне даручыў ім Бог. І цешыліся, што ўжо праз момант яны апынуцца ў руках святара, а затым – на галовах вернікаў.*

***Маленькі Чытач, на пачатку Вялікага посту задумайся над сваім жыццём і заданнем, якое падрыхтаваў для Цябе Бог. Выкарыстай гэты час з карысцю.***

**Заданне:** ***Падумай разам з бацькамі, над чым Ты хацеў бы папрацаваць у час Вялікага посту, што хацеў бы змяніць у сваім жыцці. Зрабі пастановы і запішы іх на кожны тыдзень Вялікага посту, зрабіўшы адпаведны каляндар на ўсе 40 дзён.***

*С. Вераніка Блізнюк FMA*

# Ад шчырага сэрца

**Паважанаму Айцу Пробашчу Валерыю Шэйгерэвічу**

з нагоды Дня нараджэння жадаем добрага здароўя і радасці на кожны дзень. Няхай міласэрны Бог узнагародзіць за адданую службу Яму і людзям ды дапамагае ў цяжкія хвіліны жыцця, а Маці Божая блаславіць на далейшыя гады нялёгкай святарскай паслугі. Ад усяго сэрца дзякуем за дабрыню і адкрытасць.

*Парафіяне з касцёла св. Францішка Асізскага ў г. Свіслач*

**Паважанаму Ксяндзу Казіміру Мураву**

з нагоды Імянін складаем сардэчныя пажаданні: натхнення Святога Духа на кожны дзень душпастырсткай паслугі і апекі Маці Божай. Няхай кожны дар, які Вы атрымліваеце ад Усявышняга, будзе моцнай падтрымкай на жыццёвым шляху. Шчасці Божа!

*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Жупранаў*

**Паважанаму Ксяндзу Збігневу Драгулу**

з нагоды Імянін перасылаем шчырыя віншаванні. Жадаем шмат сіл, нязгаснага запалу ў службе Богу і людзям, шчодрых ласкаў ад Усемагутнага, апекі Найсвяцейшай Маці і моцнага здароўя на доўгія гады жыцця. Шчасці Божа!

*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам са Старых Васілішкаў*

**Паважанаму Айцу Казіміру Енджэйчаку**

з нагоды Імянін перасылаем найлепшыя пажаданні: Божага бласлаўлення, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, шчодрых дароў Святога Духа і ласкаў ад Хрыста. Жадаем таксама моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, душэўнага супакою, штодзённай радасці, усмешкі, цярплівасці і добразычлівых людзей побач. Дзякуем за адкрытае сэрца, адданую службу Богу і людзям.

*Яна, Валерый і Вераніка з парафіі Селіванаўцы*

**Паважанаму Ксяндзу Казіміру Мураву**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: доўгіх гадоў жыцця ў добрым здароўі, шчасця, радасці, цярплівасці ў святарскай працы, шчодрых дароў Святога Духа, добразычлівых людзей побач. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя і святы Заступнік нястомна Вамі апекуюцца, а Анёл-ахоўнік чувае і дапамагае годна пражыць кожны дзень.

*Былыя парафіяне*

**Паважанаму Ксяндзу Каноніку Юзафу Багдзевічу**

з нагоды Імянін ад усяго сэрца перасылаем найлепшыя пажаданні: моцнага здароўя, душэўнага супакою, штодзённай радасці. Жадаем дароў Святога Духа, апекі Маці Божай і святога Заступніка. Няхай Ваш жыццёвы шлях будзе асвечаны промнямі Божай міласэрнасці. Шчыра дзякуем за добрае сэрца, якое заўсёды на нас адкрыта, за ўвагу і клопат пра парафіян і святыню.

*Вернікі з касцёла свсв. Космы і Дам’яна ў Астраўцы*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Шэмету**

з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем моцы Святога Духа на кожны дзень святарскай праслугі і апекі Маці Божай. Няхай кожны дар, які Вы атрымліваеце ад Пана, становіцца падтрымкай на жыццёвым шляху. Дзякуем за бацькоўскі клопат аб парафіі.

*Парафіяне з Гродна-Аўгустоўка*

**Паважанаму Ксяндзу Алегу Кудэрку**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем найлепшыя пажаданні: моцнага здароўя на доўгія гады, шчырых і верных людзей побач, шчодрых Божых ласкаў, святла Святога Духа і апекі Маці Божай. Няхай Яна вядзе Вас найпрыгажэйшай сцежкай да свайго Сына, і кожны дзень хай прыносіць радасць.

*Парафіяне з Гродна-Аўгустоўка*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Ханько**

з нагоды Дня нараджэння сардэчна жадаем моцнага здароўя, святла Святога Духа і апекі Маці Божай. Мы вельмі ўдзячны Пану за Вас, за тое, што корміце нас Божым Целам і Яго цудоўным Словам, што адкрываеце дар Эўхарыстыі як крыніцу моцы і святла ў штодзённым жыцці. Няхай Ваша адкрытае, добрае сэрца і розум ніколі не стамляюцца абвяшчаць людзям Евангелле. Дзякуем бацькам за сына святара.

*Сем’і Аліны Крывіцкай і Марыны Яновіч з Гродна*

**Паважаным Айцам Казіміру Енджэйчаку і Казіміру Мараўскаму**

з нагоды Імянін жадаем неабходных дароў Святога Духа, шчодрых ласкаў ад Усемагутнага, нястомнай апекі Найсвяцейшай Маці, добрага здароўя, сіл, радасці і зычлівых людзей побач. Жадаем таксама бласлаўлення ад Хрыста, які ўдзяляе моц. Няхай Ваша шчырая малітва і павучальныя казанні надалей пранікаюць у людскія сэрцы.

*Сем’і Арлюкас і Юадзшка з в. Гарачкі*

**Паважаны Ксёндз Пробашч Аляксандр Лебядзевіч!**

З нагоды Дня нараджэння жадаем, каб добры Бог нястомна адорваў Вас мноствам ласкаў, абараняў, калі трэба, і ўказваў простую сцежку да Неба, а Панна Марыя атуляла сваёй апекай. Мы дзякуем Пану Богу за Вас – апостала вялікай веры і любові, да якога хочацца ісці ў радасці і ў горы. Вы заўсёды зразумееце, дапаможаце, знойдзеце патрэбныя словы. Мы ж усе свае пажаданні спалучаем з малітвай. Аддзяч Вам Божа!

*Касцёльны камітэт, дзеці, парафіяне і Кола Жывога Ружанца з Жамыслаўля*

**Паважаным Айцам Казіміру Енджэйчаку і Казіміру Мараўскаму**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай добры Бог дапамагае Вам заўсёды і адорвае ўсімі патрэбнымі ласкамі. Жадаем няспыннай апекі Панны Марыі, шчодрых дароў Святога Духа, а таксама моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, душэўнага супакою, штодзённай радасці, шчырых і зычлівых людзей побач.

*Вернікі і члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з парафіі Селіванаўцы*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Казіміру Жывалеўскаму**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Ваш шлях асвячае Найсвяцейшая Маці, добры Езус трымае ля сэрца і адорвае ўсімі патрэбнымі ласкамі, а Святы Дух будзе бясконца шчодрым на свае дары. Жадаем таксама здароўя, душэўнага супакою і радасці. Мы ўдзячны Пану за Ваша добрае сэрца і малітву.

*Сем’і Сымбула і Бражук*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Гавэцкаму**

выказваем бязмерную ўдзячнасць за аказаныя ў цяжкую хвіліну дапамогу і маральную падтрымку. Вы працягнулі нам далонь і далі магчымасць вырашыць нашы праблемы. Дзякуем за зразуменне і спагадлівасць. Няхай Усемагутны шматразова аддзячыць Вам за дабрыню, спачувальнасць і дабрадушнасць. Беражы Вас Бог!

*Сям’я Матылевіч*

**Паважанаму Айцу Казіміру Енджэйчаку**

з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем мноства Божых ласкаў на кожны дзень жыцця, нястомных сіл у абвяшчэнні Евангелля Божаму люду, шчодрага плёну ў душпастырскай працы, няззломнай веры, душэўнага супакою і шчырай радасці ў сэрцы. Шчасці Божа!

*Парафіяне з в. Нямнова*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Субелю**

з нагоды Дня нараджэння сардэчна жадаем моцнага здароўя, радасці і шчасця, зычлівых і добрых людзей навокал, апекі Маці Божай, святла Святога Духа, Божага бласлаўлення на доўгія гады жыцця. Дзякуем за Божае слова і прыгожыя павучальныя казанні. Вы цудоўны спаведнік, які дапамагае нам падымацца з грахоў і навяртацца да Нябеснага Айца. Ад Вас мы вучымся быць Божымі дзецьмі. Аддзяч Божа!

*Касцёльны камітэт і парафіяне з Сурвілішкаў, Кола Жывога Ружанца МБ Балеснай з Гіравічаў*

**Паважаны Ксёндз Аляксандар Рудзевіч!**

З нагоды Дня нараджэння жадаем Вам моцнага здароўя, сіл і стойкасці на святарскім шляху, штодзённай радасці, унутранага супакою, моцнай веры, непахіснай надзеі і палымянай любові ў душы. Няхай Маці Божая прытуляе Вас да свайго сэрца, а Святы Дух надзяляе мудрасцю і дадае сіл у душпастырскім служэнні.

*Парафіяне з в. Старое Сяло*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб’ядноўваць пажаданні.**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Алена Гальчэня; тэл. **8 0152/ 756438**; e-mail: slowo.grodnensis@gmail.com.; **http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 1152 ; тыраж 5240; аб’ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная